## «МОЙ КРАЙ ЗАСЕЯНЫ ТРЫВОГАЙ...»

Аўтара зборніка вершаў «Верасніца» Галіну Дашкевіч ведаю даволі даўно, але дагэтуль — не ў статусе паэтэсы. Не здагадваўся нават, што яна стала займаецца паэзіяй. Аспірантка, дысертантка, кандыдат навук, выкладчык, дацэнт. І раптам... паэзія. Праўда, цяпер гэта не вельмі вялікае дзіва, калі літаратуразнаўцы, нават сталага ўзросту, бывае, бяруцца за мастацкую творчасць, часцей — паэзію. Прычына гэтага, мабыць, у тым, што ў аснове жанру літаратуразнаўства і крытыкі пераважае ўсё ж разумовасць, філасофская нацэленасць на пазнанне літаратуры і жыцця, а лірычная душа, якая, несумненна, уласціва кожнаму літаратару, застаецца на працяглы перыяд «нявыспеванай». І вось у пэўны час, раней ці пазней, настае момант спакушэння. Аднак у выпадку з Г. Дашкевіч, па ўсім відаць, адно і другое суіснавала ў плыні паралельных інтарэсаў. І ўсё ж імгненне нечаканасці запыняе і змушае больш пільна і зацікаўлена ўчытацца ў вершы паэтэсы, бо сітуацыя ў сэнсе спалучэння некалькіх творчых схільнасцяў калі і не рэдкая, то ўсё ж пакуль і не зусім ардынарная. Кожны такі выпадак усё яшчэ выклікае змешанае пачуццё дзівавання, цікаўнасці і ўсмешлівай паблажлівасці, асабліва з боку прафесійна прызнаных паэтаў.

У літаратуразнаўцаў, якіх захапляе азарт паэтычнай творчасці, вобразна-стылёвы лад вершаў, як правіла, кондава-традыцыйны, без навамодных выкрутасаў. На гэта ёсць, мабыць, свае аб'ектыўныя і суб'ектыўна-псіхалагічныя прычыны. Па-першае, на іх ціснe аўтарытэт класікі, якую яны добра ведаюць, і, па-другое, іх вядзе памяць пра сваю літаратурную маладосць, калі нацыянальная паэзія яшчэ не мела комплексаў архінаватарства. Не з'яўляецца выключэннем і зборнік вершаў Г. Дашкевіч «Верасніца».

Нават калі чакаць ураўнаважанай, традыцыйнай эпічна-лірычнай стылёвай стыхіі ў першым зборніку маладога паэта і той прастаты і даступнасці паэтычнага выказвання, якога трымаюцца паэты-пачаткоўцы, каб быць хоць бы на першым кроку літаратурнай дзейнасці зразуметымі і ўспрынятымі, зборнік «Верасніца» здзіўляе адкрытасцю, непрыхаванасцю, нейкай несаромнай публічнасцю гэтай самай вобразнай прастаты. Здзіўляе і... прываблівае. Прываблівае, бо яна, гэтая прастата, шчырая. Гэта не знешняя ўстаноўка на пэўную зададзенасць стылёва-вобразнага выяўлення і нават не ўнутраны прынцып індывідуальнай мастацкай творчасці, а нешта са сферы несвядомага, прыродна натуральнага існавання пэўных народна-правераных адносін да свету. Гэта сама будзённая чалавечая непасрэднасць, якая хоча, каб яе ўспрымалі такой, якая яна ёсць. І, аказваецца, гэтая непасрэднасць мае свае творчыя патэнцыі, хоць, магчыма, і сціплыя.

Прастата вобразаў у зборніку «Верасніца» далёка не прымітыўная. Яны тут нібы захутаныя ў нейкі туман паэтычнага міфа, які ўзнікае сам сабой ад высокай пачуццёвасці лірычнага прамаўлення і ў выніку размывае вобразную адназначнасць, змушае не зусім верыць у гэтую простасць і абяцае чакаць ад яе нечага іншага. Так і атрымліваецца. Лірычная гераіня прызнаецца:

Святая прастата майго кахання
І веліч невыносная пакуты.

*(«Твой голас, твае вочы, твае рукі...»)*

Родны край — Палессе, Айчына, Беларусь... Колькі ўсхвалявана-лірычных і разважліва-мужных радкоў прысвечана ім паэтамі ўсіх пакаленняў! Паўтараць іх і наследаваць? Г. Дашкевіч і паўтарае, і наследуе, аднак зноў-такі робіць гэта адкрыта, непрыхавана. Дзесьці праглядваюцца Якуб Колас, Яўгенія Янішчыц. Асабліва Яўгенія Янішчыц, якая таксама родам з Палесся. Ёй прысвечаны адзін з найлепшых вершаў зборніка. Аднак паэтэса, не спаборнічаючы

з вялікімі майстрамі, усё ж імкнецца знайсці сваю інтанацыю, свой голас, сваё адчуванне жыцця. Непасрэднасць характару пабуджае яе пайсці на такую дыстанцыю збліжэння з жыццёвымі з'явамі, калі паэтычная адцягнутасць нібы знікае, а перад вачыма застаецца адна жывая сапраўднасць. Паэтычны зрок засяроджваецца на самай нізавой плыні побыту, дзе так або інакш завязваюцца ўсе вузельчыкі народнага лёсу. І вось светла гучаць у вершах Г. Дашкевіч сапраўдныя назвы вёсак з родных яе мясцін, у тым ліку Верасніца, паэтызуюцца рэальныя ў жыцці блізкія людзі з іх сапраўднымі імёнамі: дзяды, бацькі, дзядзькі і цёткі, іншыя родзічы, суседзі, уласныя дзеці і ўнукі. Можна сказаць: ну якія тут навацыі? Усё гэта было ўжо ў «Новай зямлі» Якуба Коласа. Сапраўды, было, але з іншым ідэйна-эстэтычным прызначэннем. Сённяшні зварот беларускіх паэтаў да той коласаўскай традыцыі выкліканы хутчэй за ўсё крызісным станам грамадства, звязаным таксама з выцясненнем нацыянальных духоўных каштоўнасцяў. Паэзія хатняга сялянскага свету выконвае ў нашы дні не столькі «адраджэнскую», як у Якуба Коласа, колькі «ахоўную» ўжо функцыю, хоць у сучасных умовах Беларусі адно і другое ўзаемазвязанае.

Паэтэса ўсё шырыць і шырыць закаханым зрокам мілы свет радзімы, не ўпускаючы каларытных, цёплых для яе мясцовых падрабязнасцяў і паэтычна ўзвышаючы іх:

Я да возера іду сцяжынай вузкай,
Тут лілею называюць міла гускай,
А шчупак здаўна завецца тут кажушак,
А прыгожая дзяўчына — харашуха.

*(«На Палессі не гавораць, а спяваюць...»)*

Слова «вузкая» тут не павінна ўводзіць у зман. Яно, наадварот, падкрэслівае шырокую прасторавасць роднай зямлі. Сцяжына таму і вузкая, што яна сціснутая жывой, наступальнай вольнасцю прыроднага палескага буяння.

Адчуванне касмічнай шырыні і аб'ёмнасці прастораў роднага краю навявае лірычнай гераіні душэўны спакой. У

зборніку некалькі разоў сустракаецца здвоены вобраз «неба—зямлі» як сімвал універсальнасці свету. І натуральна, што ледзь не міфалагічнае ўваскрашэнне мінулага мае ў вершах Г. Дашкевіч накіраванасць ваяўнічага выкліку таму, хто гатовы сёння патаптаць народныя крыніцы, каб яшчэ ніжэй апусціць нацыю, і каго можна ўявіць у рэальных канкрэтных абліччах:

Кладуць без болю, жалю ў дамавіну
Агмень радовішча і памяці аб продках —
Наіўныя, сляпыя і глухія,
Узрошчаныя ў цемры беспрасветнай,
Яны не здольныя ніяк уцяміць,
Што той ячмень нязгасны, вечны.

*(«Шэрасць, будзённасць, здрадлівасць...»)*

Зварот паэтэсы да мінулага не мог абмінуць народную трагедыю вайны. Былі вялікія ахвяры, вялікая кроў, і боль тых часоў перадаецца з пакалення ў пакаленне як запавет гуманістычнага яднання і жыццёвай мужнасці. Менавіта ад свайго пасляваеннага пакалення паэтэса піша:

Заўжды людзьмі на свеце жыць,
Бо мы тым болем звязаны.

*(«Мы не адчулі на сабе...»)*

Або вось такія праніклівыя радкі пра памяць вайны:

Загінуў родны дзядзька мой Васіль,
На покуці — гітара-успамін,
Я ціха-ціхенька крану струну —
І ўваскрашу хлапечую вясну.

І ўваскрашу у памяці сваёй
Таго, хто незнаёмы быў са мной,
Аб кім я ведаю па маміных слязах
І па бабулі выцвілых вачах.

(«Загінуў родны дзядзька мой Васіль...»)

І, вядома ж, партрэтнае аблічча сённяшняга Палесся, як і ўсёй Беларусі, не можа абысціся без чорных, выпаленых рыс чарнобыльскага пажару. Цыкл «Жанчына ў чор-

ным», прысвечаны чарнобыльскай бядзе,— бадай, самы моцны ў зборніку і па напружанасці перажывання, і па стылёвай адпаведнасці:

Мой край засеяны трывогай,
Палынным смерчам апавіты.

*(«Споведзь палешука»)*

Тэма Чарнобыля выклікае ў паэтэсы то па-жаночы вострапачуццёвую скруху:

Юначыя няздзейсненыя мары,
Як ластаўкі бяскрылыя, ў труне...

То гнеўную ўзрушанасць:

Калі для вінаватых прыйдзе кара?
Гасподзь магутны, дзе твой правы суд?

*(«Тут кожны пастаец без прынукі...»)*

Уражваюць радкі верша «Іван Мележ у Мазыры» дакладна псіхалагічным і літуратурна балючым прадбачаннем:

Шчаслівы — не зведаў чарнобыльскі дым,
Зайшоўся б, каб зведаў, ад болю.

І ўсё ж так не хочацца безнадзейнасці і змірэння з гвалтоўным небыццём, што нават прывідны агеньчык надзеі грэе сэрца:

Нехта ўверсе паходню запальвае:
Выжыць мы абавязаны.

*(«Радыяцыя сэрцы чаіпальвае...»)*

Паказальны ў гэтым сэнсе апошні раздзел зборніка, які называецца «Маналог шчаслівай».

У зборніку нямала цікавых і арыгінальных жыццёвых назіранняў («Той, хто не заплакаў, песні не спяе», «Бусел у сарочцы вышыванай, бел-ружовай, з чорнаю каймой»). Купала «нечым вельмі падобны на тату»; шмат дакладных паэтычных вобразаў («Іржышча нашага кахання», «Мазыр перамаладзеў», «Спалі вочы, ды сэрца не спала»).

І ўсё ж, вядома, заўважаецца, што гэта першы зборнік Г.Дашкевіч, і прыкметы пачатковага ўваходу ў літаратуру выяўляюцца. Гэта і празмерная сентыментальнасць у замілаванні да роднага краю, і рысы ідылічных адносін да вёскі і яе людзей, і недастатковая філасафічнасць закранутых праблем, і імкненне ў асобных выпадках завяршыць складана акрэслены ўнутраны сюжэт верша гучным патрыятычным лозунгавым заклікам або агульнавядомай сентэнцыяй. Часам сустракаюцца сэнсавыя страты ад прыблізнай рыфмоўкі. Што ж, паэтычная маладосць — гэта таксама маладосць, і яна абавязвае вучыцца. Аднак галоўнае ў тым, што Галіна Дашкевіч у зборніку «Верасніца» выступае як паэтэса з сур'ёзнымі творчымі магчымасцямі, і таму вельмі б хацелася, каб яе паэтычныя здольнасці развіваліся і сталелі.

*Віктар Каваленка*

## НА ПАЛЕССІ

На Палессі сярод безлічы дзівосаў
Ёсць чаруючыя назвы нашых вёсак:

Верасніца, Любавічы, Азяраны...
Так ласкава, нібы сонейка уранні,
Зіхацяць, пераліваюцца, струменяць
Словы родныя пяшчотна, задуменна.

Любавічы — золак клічуць,
Азяраны — дзень жаданы,
Верасніца — верас сніцца
Ўсім, хто ў край свой закаханы.

Верасніца, Любавічы, Азяраны,
Вы — як кветкі на абрусе саматканым,
Дыяменты роднай мовы беларускай,
Вымаўляю — і пяю не напяюся.

Верасніца, Азяраны, Любавічы,
Хай жа доля толькі шчасце ўсім вам зычыць,
Хай зямелька не шкадуе дараваці
Ураджай штогод, каб бохан быў у хаце.

Верасніца, Любавічы, Азяраны,
Усявышнім вы самім, відаць, названы,
Бо з якою быць душою трэба чыстай, палымянай,
Каб прыдумаць: Верасніца, Любавічы, Азяраны...

* * *

Стаю над Прыпяццю у задуменні
І аглядаю Турава муры.
Ды раптам прашчураў мільгнулі цені
Каля забытай Замкавай гары.

Князь Тур, нібыта сокал лёгкакрылы,
Імчыцца на ўстрывожаным кані,
І Святаполк, і Тураўскі Кірыла —
Магутны сын палескае зямлі.

Я не магу ад іх адвесці вочы,
Глядзяць яны ў душу мне праз вякі...
А Прыпяць клапатлівая плюскоча,
Засмяглыя цалуе берагі.

Ўздыхае цяжка... Ўсе мы — лёсу дзеці,
Нясём за Беларусь адзін адказ.
Яснее неба. Сонца на дасвецці
Заззяла так, нібы ў апошні раз.

* * *

Шэрасць, будзённасць, здрадлівасць
Заходзяць у нашыя душы
І піляць, і нішчаць карэнне,
Што прашчуры узгадавалі.
Кладуць без болю, жалю ў дамавіну
Агмень радовішча і памяці аб продках...
Наіўныя, сляпыя і глухія,
Узрошчаныя ў цемры беспрасветнай,
Яны не здольныя ніяк уцяміць,
Што той Агмень нязгасны, вечны.

* * *

Я помню, тата, мы плылі
На белым, белым параходзе.
Ты мне, маленькай, гаварыў:
«Дачушка, сонейка ўзыходзіць».
Шумяць, спяшаюцца гады
Ў трывогах, клопатах і ў згодзе.
«Дачушка,— кажаш, як тады,—
Дзівіся: сонейка ўзыходзіць».
Штодзень, нібыта ўпершыню,
Глядзіш на свет ты улюбёна,
На сонца, неба і траву,
На вербалозы і на клёны.
Ў цябе вучуся дабрыні,
І мужнасці, і спадзяванню.
Зрасліся нашы карані,
Напэўна, тым пяшчотным раннем.
З дачкой і сынам я плыву
На белым, белым параходзе,
Ўзнімаю ціха галаву...
Над намі сонейка ўзыходзіць.

## ПАЛЕСКІ БОГ

Дзядулю Паўла называлі «Богам»
За мудрасць, справядлівасць, дабрыню.
Як чараўнік, ён варажыў над стогам —
Узносіў, нібы песню, ўвышыню.

Рыбак заўзяты, цесля і араты —
Умеў зрабіць і ступу, і карэц.
Саджаў дзядуля дрэўцы каля хаты,
Любіў пад яблынькаю пасядзець.

Казаў: «Памру, а сад мой не загіне,
Яму для вас наканавана жыць...
Я буду моцна спаць у дамавіне,
А праўнучак маленькі прыбяжыць
Пад гэта дрэўца, міла зашчабеча
І пакаштуе яблычак з яго...»

Дзядуля мой глядзеў далёка ў вечнасць,
Бо нездарма мянушку меў ён — «Бог».

* * *

— Унучка,— казала бабуля мая,—
Каб некалькі сэрцаў, дзіцятка, я мела,
То, пэўна б, усе іх я вам аддала,
Каб сонцам была, то усіх бы сагрэла.

Даўно ў дамавіне на вечным спачыне
Бабулі мае — Антаніна й Куліна,
А іх дабрыні не згасаюць праменні,
Душа не спачыла ў халодным здранцвенні.
Іх сэрцы хвіліны спакою не мелі,
Не сонцам былі, ды усіх яны грэлі.

## НАСТАЎНІК

Апошні званок. Рой дзетвары...
Хто ўпотай сумуе, хто скача.
І толькі адзін настаўнік стары
Слязы не хавае. Плача.

Скупая слязіна блішчыць на вачах
Выкладчыка роднай мовы.
Ён больш паўстагоддзя стаяў у дзвярах
Маленькай вясковай школы.

Нібыта салдат на адказным пасту,
Нібыта пасланец Божы.
Чакаў ён дзятву, адкрываў ён душу
Для іх, маладых, прыгожых.

Купалава песня з вуснаў яго
Гучала, нібыта малітва,
І твары малодшых яго сяброў
Свяціліся шчыра, адкрыта.

У сэрцах, узрошчаных дабрынёй,
Не знойдзецца месца здрадзе.
Хай поле, засеянае табой,
Калосіцца ў згодзе і ладзе.

Настаўнік мой, бацька мой дарагі,
І я трапяткім каласочкам
Табе пакланюся да самай зямлі,
Твая вучаніца і дочка.

* * *

Мама, заставайся маладою,
Запаветнай песняю зямною,
Покуль ты жывеш на белым свеце,
Мы, сівыя птахі, будзем дзецьмі.

Клопат наш душою адчуваеш,
Роспач нашу з намі падзяляеш,
Ніцямі спагады, чысціні
Змацавала нашы карані.

Ўскалыхала нас, узгадавала,
Быць людзьмі заўсёды навучала,
Памятаць пра гонар і пра сорам,
Каб не пазіраў сусед з дакорам.

Як бусліха над гняздом, шчыруеш,
Як зязюля, ты без нас кукуеш,
І у сне ты засланяеш сэрцам
Дзетак ад бяды, навалы, смерці.

З радасцю, нягодамі, журбою,
Мама, не старэй, квітней душою.
Мама, заставайся маладою,
Запаветнай песняю зямною.

* * *

Маленькая вёсачка Малешаў
Даверліва к Тураву туліцца.
Сюды я, стамлёная далеччу,
Імкнуся да таты з матуляю.

Імкнуся да дзедаў і прадзедаў,
Што спяць на закінутых могілках,
Мне Богам ты, вёсачка, дадзена
Паводле жыццёвае логікі.

У садзе квітнеючым дзедавым
Так хораша марыцца-мроіцца.
Ён з часам загіне, я ведаю,
Збяднее, спусцее ваколіца.

Не стане і вербаў развесістых,
Сядзібы прыветнай татулевай,
Напоўненых роднымі песнямі,
Няхітрай вясковай утульнасцю.

Не стане мяне з маёй шчырасцю
І прагай жыцця неспатольнаю...
Душа мая Божаю міласцю
Сюды заляціць птушкай вольнаю.

* * *

Ўдыхаю водар каласоў
З дзядулевае нівы —
І нібы чую галасоў
Далёкіх пералівы.

Я бачу свежую раллю,
Дзядулю ў світцы белай,
Ён засявае — я пяю,
Здаецца, паляцела б.

Я песняй звонкаю сваёй
Яму дапамагаю,
А ён у барадзе сівой
Усмешку прыхавае.

І скажа: «Ўнучка, запявай,
Каб жыта удалося,
Каб хвалі аж за небакрай
Раскінула калоссе.

Каб нашых сейбітаў і жней
Красой сваёй здзівіла...»
Трывожна кружыць сухавей
Над дзедавай магілай...

## ДЗЯДЗЬКА РЫГОР

Пражыў больш за восем дзесяткаў
Мой дзядзька любімы — Рыгор,
Ў вачах яго — мудрасць і ласка
І ціхі бацькоўскі дакор.

Трох дзетак забрала нядоля —
Дачушку і двое сынкоў,
Не ведаў пра страшнае гора,
Калі з-пад Берліна ішоў.

Не ведаў, што дзетачак мілых
Даўно ўжо на свеце няма.
Здароўе, апошнія сілы
Забрала ў Рыгора вайна.

Ды прагу жыцця не спаліла
І права кахаць удваіх.
Палашка яму нарадзіла
Трох дзетак замест нежывых.

Тры мілых гарэзы-дачушкі,
Красуні — адна у адну...
Рыгор іх бярог, песціў, гушкаў,
Да сэрца пяшчотна гарнуў.

На працы штодня шчыравалі
Палашка і дзядзька Рыгор.
Дзяўчаткі ж цвілі, падрасталі,
Да нас забягалі у двор.

І я не магла ўтрываці
Без іх аніводнага дня.
У цёплай Рыгоравай хаце
Гуляла парой дацямна.

Пасядзем ля печы ў радочак.
Спяваем — аж хата гудзе...
Палашка маленькі гаршчочак
На стол урачыста нясе.

Мне хітранька дзядзька міргае,
Бо ведае — кашу люблю:
— Ты ж, Галько, калодзеж капаеш
У гэтым чароўным гаршку,

А трэба паўз край, памаленьку.
Ды ты не саромся, шпарчэй...
Як некалі буду з кавенькай,
Мо будзеш заглядваць часцей.

Смачнейшае і саладзейшай
Не ела я кашы нідзе...
Іду я з унукам-малечай,
А дзядзька насустрач ідзе.

— То як жа жывеш, харашуха?
Як дзеткі? Мужчынка, здароў!
Ты Паўлам назвала унучка?
Як дзеда, як бацьку майго.

Не знікне палескае племя.
Жывучы Клімовічаў род...
Палашка гаруе на сене,
А я сцерагу агарод.

Не маю, дачушка, спакою,—
Распухла зараза-нага.
Стары ўжо — плыву за вадою,
Слабы стаў, ні к чому не варт.

Хадзем жа у хату — сцюдзёна.
Прастудзіш малога, крый бог...
Душа мая зноў у палоне
Дасціпнай гаворкі яго.

Унучак вясёлы сакоча,
Шчабеча і нешта пяе,
А дзядзька чароўны гаршчочак,
Пакрэктваючы, дастае.

Мне водар духмянае кашы
Дзяцінства нагадвае зноў...
Слязінку унучак убачыў
І ручкай па твары правёў.

* * *

Пароюю невыносна цяжка
Бывае у наш час суровы.
І я згадаю словы бацькі:
— Жыві здарова!

І усміхнуся завірусе,
І страсяну з душы аковы,
Нібы жывой вады нап'юся:
— Жыві здарова!

Я веру ў сэрцаў паяднанне,
Я веру ў веліч шчырых словаў:
Як сонца промень, як світанне
Бацькоўскае: — Жыві здарова!

## БАБУЛІН РУЧНІК

Бабулін ручнік вышываны —
Як сімвал яе маладосці,
Як сведчанне болю і жалю,
Кахання і споведзі шчырай.
Ці знала яна, маладая,
Што чорна-чырвоныя кветкі
Ў аздобе бялюткіх карункаў
Успыхнуць для ўдзячных нашчадкаў
Агнём чысціні і натхнення?

## ДЗЕД МІХАЛ

Збяруся зноў у свет вялікі
Да тых спрадвечных каранёў...
Казаў не Хойнікі — Хвайнікі —
Міхал — адзін з маіх дзядоў.

Мой дзед Міхал — матулін тата —
Быў і араты, і касец,
І слынным спеваком заўзятым
Быў дзед — Міхалка Лагвінец.

Кахаў бабулю Антаніну,
Дзяцей ад гора засланяў,
Якую б справу ні рабіў ён,
Нібы салоўка той — спяваў.

Бывала, едзем у жытное,
На млын малоць ці ў сенажаць,
Ён запяе заўжды такое,
Што нельга сэрцайка суняць.

Яно, як птушачка, трапеча,
Спявае, плача з песняй той,
Дзядуля адышоў у вечнасць,
Любіў зямлю — і стаў зямлёй.

* * *

*Я. Я. Д.*

Я помню, як ты юны, закаханы
Мне прызначаў над Прыпяццю спатканне.
Казаў: «Што будзе з намі — невядома,
Я ад'язджаю з бацькавага дому,
Давай пасадзім дрэўцы для ўспаміну,
Я пасаджу дубок, а ты — рабіну».
Паехаў ты, і пасля бур-навалаў
Рабінка маладзенькая завяла.
Дубок трывожна пахіліў галінкі,
Нібы пытаўся: «Што з табой, дзяўчынка?»
Рабіначку на досвітку крамяным
Дубок паіў расой, а я — слязамі.
Гарнуў дубочак лю́бую да сэрца,
І на світанні акрыяла дрэўца.
Рабіначка закрасавала ўранні,
Каб век не гасла, век жыло каханне...
Ты — мужны дуб, а я — твая рабіна,
Шумім лісцём у згодзе лебядзінай.

* * *

Рукі ускіну накрыж,
Смерці наперакор...
Ты валасы мне гладзіш,
Але ў вачах дакор.

Кажаш: «Навошта слёзы?
Сёння дажджы лілі...»
Тата, твая бяроза
Шэпча: «Салдат, жыві».

З бойні ваеннай выйшаў:
Колькі страціў крыві!
Клічуць у садзе вішні:
«Родны, жыві, жыві».

Тата, цябе гукаюць
Прыстань і Красны Бор.
Помніш, як мы спявалі
Аж да світальных зор?

Як ты на сенажаці
Спрытна вяршыў стагі?
Чуеш? Гукае маці:
«Родны, жыві, жыві...»

## БАБУЛЯ КУЛІНА

Бабуля памірала і казала:
«Глядзіце ж, дзетачкі, адно другога!»
Успамінала Прыстань і Заверб'е,
Развітвалася з Доўгаю Лазою,
З Вінішчамі, Гарой і Крыванівай.
На Прыстані палотны паласкала,
А на Заверб'е бегла на спатканні...
Лаза не раз ад смерці ратавала,
А на Вінішчы з бацькам йшла, бывала,
Хаджаць жакі, нацешыцца ўюнамі.
А на Гары любіла на змярканні
Рамонкі у вяночкі заплятаці.
На Крываніве жыта з маці жала
Ды ў песнях шчырых долечку гукала.
Дванаццаць яна дзетак нарадзіла,
Ды выжылі з іх ўсяго шасцёра:
Рыгор, Даніла, Сідар і Мікола
І дочкі — Кацярыначка і Волька.
Сын Сідар не вярнуўся з Магадана,
Даніла голаў склаў пад Кёнігсбергам...
Бабуля памірала і казала:
«Глядзіце ж, дзетачкі, адно другога!»
На сына меншага свайго старая
Вачамі прасвятлеўшымі глядзела
І прыгаворвала: «Мой залаценькі,
Пытаеш, ці пазнала? Як жа маці
Тваёй сівой галоўкі не пазнае?
Глядзі ж яго, Марусечка, бо немцы
Крыві з яго багата пасмакталі,
Бо у яго, нябогі, каля сэрца

Дасюль сядзяць варожыя асколкі!..
Не трэба плакаць, бо ужо даўно мне
Падацца трэба следам за бацькамі,
За дзеткамі сваімі і за мужам,
Яны даўно ужо мяне чакаюць...
Жывіце доўга, дай вам Бог здароўя,
І сонейка, і хлеба, і да хлеба...
А на магілцы кветак не садзіце,
Хай траўкай маладою зарастае...
Не будзе мець душа мая спакою,
Бо да апошніх дзён сваіх не знаю,
Дзе Сідаркавы косці спачываюць
І дзе ляжыць сыночак мой Данілка...
Бабуля памірала і казала:
«Глядзіце ж, дзетачкі, адно другога!»

* * *

У бацькавым доме, як сонца,
Матуліна ласка мяне саграває бясконца,
Пад роднай гаворкі напеў засынаю,
Дзяўчынкай-гарэзай маленькай сябе адчуваю.

У бацькавым доме, як поўняй,
Усмешкаю кожны куточак напоўнен,
Дзяцінства былога стракатае ўлонне
Мне кветкай Купалля чароўнай ківае сягоння.

У бацькавым доме, паверце,
У кожным куточку пануе бяссмерце,
Тут прадзедаў простае слова — святыня,
Адвечнаю песняй у сэрцах жыве — не астыне.

## ПРЫСТАНЬ

Бязмежнаю ракою зіхацістай
Была ты для маленькіх храбрацоў,
Ах, Прыстань, Прыстань, залатая Прыстань,
Іскрыстага маленства азярцо.

Пад песні задуменныя Палесся
Раслі мы і ўглядаліся ў прастор,
Ірваліся хутчэй у паднябессе,
Як птушаняты — за сяло, да зор.

З тае пары гадоў прайшло нямала,
А ўсё такі ж імклівы наш узлёт,
Жыццё вядзе да новых перавалаў,
Нязведаных дарог, трывог, прыгод.

Ты ж, як раней, бязмежнай, зіхацістай
Здаешся для маленькіх храбрацоў,
Маіх дзяцей калыша, лашчыць Прыстань —
Палескае малое азярцо.

* * *

Вось пагодка, дык пагодка,
Разгулялася паводка.
Зашумела, забурліла,
Тураў, вёскі затапіла.

Неабсяжная прастора.
Прыпяць наша — нібы мора.
Каля кожнай хаты — лодкі
Выступаюць як лябёдкі.

Ну, а наш старэнькі човен
Да краёў вадой напоўнен,
Дзед гаворыць: «Цыц, блазнюк,
Не круціся, бо каюк.

Не пішчаць, закрыць раты,
Бо патонем, як каты.
Дай чарпалку мне, кумок,
Дзякуй, выручыў, браток».

Бабка едзе да дачкі
Аж з-пад Брагіна... Бурчыць:
— А мая ж ты сакатушка,
Перапёлачка-пястушка,

А куды ж ты заляцела?
Як жа я недаглядзела,
Што дзіцятка за марамі,
За гарамі і лясамі
Будзе век свой векаваць,
Будзе гора гараваць.

Кажа дзед: «Не плач, старая,
Глянь — кажушак[1] выглядае,
Ты яго за бараду
Ды дачцэ ў скавараду.

Будзе добры падарунак
І для зяця пацалунак».
Вось пагодка, дык пагодка,
На Палессі зноў паводка.

---

[1] На Тураўшчыне так называюць шчупака.

## ВЕРАСНІЦА

Верасніца, Верасніца
Мне начамі часта сніцца.
Верасніч анкі-красуні —
Яснавокія пявунні,
Вышывальшчыцы і чарнічніцы,
Верасніч анкі-верасніч ніцы.
Чараўніцы, працаўніцы
У той вёсцы маладзіцы.
А дзяўчаты ў Верасніцы
Нібы ягадкі-суніцы.
Канапляначкі — як заранач кі,
А бялявыя — як русалачкі,
А чарнявыя і русявыя —
Перапёлачкі, пчолкі жвавыя.
З запаветнага куточка
Старажытнае зямлі
Беларусі нашай дочкі,
Як царэўны, расцвілі.

* * *

Калі была бабуля маладою,
Любіла песні жніўныя спяваць.
Ды прыпраўляла часам іх слязою
Такой, што іншы слёз не мог стрымаць:
«Не палі агнём гэтак, сонейка,
Не калі мне ног так, аржонейка,
Цяжка спіну гнуць спрацаваную,
Каласкі збіраць паваляныя».
У словах песні той жалосна-сумнай
Знайшла я нашых продкаў радавод.
Мы з песняй — хвалі жыта ў полі шумным,
З пустой душой — нагадваем асот.

* * *

На Палессі не гаворацьь, а спяваюць,
Мову родную да сэрца прытуляюць.
Так дзядуля мой спрадвеку рэзаў бохан,
Як свяцейшы скарб, дараваны ад Бога.

Так бабулечка мая шурпатай жменяй
На сяўбу вясной разгладжвала насенне,
Для яе яно як сонца залатое,
Нібы праўнучка усмешка,— дарагое.

Як унучкаў не пабачу, то нягожа,—
Так гаворыць мне матуля чыста, гожа,
Слоўца к слоўцу, як зярнятка да зярняці,
Вочы ж ясныя, нібыта у дзіцяці,
Голас срэбраны і серабро на скронях,—
Беларуская палеская Мадонна.

Я да возера іду сцяжынай вузкай,
Тут лілею называюць міла гускай,
А шчупак здаўна завецца тут кажушак,
А прыгожая дзяўчына — харашуха.

* * *

Хавала бабулю Макрэню ўся вёска,
Удаўся дзянёчак, нібы па заказу,
Схіліўшы галовы у скрусе жалоснай,
Праводзілі без прычытанняў і сказаў.

І толькі адны журавы ў паднябессі
Крычалі: «Бывай!» — і нібы галасілі,
І столькі было у той песні балеснай
Тугі па радзіме, што іх узрасціла.

Апошні раз сонца яе цалавала
У вочы, у вусны, у строгія бровы,
Высока над пожняй труна праплывала,
А дзесьці тужліва рыкалі каровы.

А дзесьці трывожна усхліпвала студня,
Якую ўскапала Макрэня ўдавою,
Пілі з яе людзі і ў святы, і ў будні
І называлі жывою вадою.

Сыночкі і дочкі і восем унукаў
Спакою адвечнага зычаць Макрэні,
А праўнучак кволай рукой без прынукі
Вяргіню прабабцы паклаў на калені.

Вяргіня, яе маладосці княгіня,
Да свежай магільнай зямелькі прыпала...
Памерла Макрэня, ды памяць не згіне
Аб шчырай душы, што дабро спавядала.

# УНУКУ

Ты — праменьчык, што продкі мае падаюць праз вякі,
Ты — надзея мая і мая лебядзіная песня.
У тваіх вачанятах сышліся сусвету пласты,
І усмешка твая, як дарунак нябёсаў балесных.

Па паставе тваёй я дзядулю свайго пазнаю.
Пазнае па галоўцы мой бацька памёршага брата,
Ўсю душу сваю, ўнучак, да донца ў цябе пералью,
Мовы роднай святло і буслянку над ціхаю хатай.

І прапрадзедаў веру у веліч народа свайго,
Іх цярпенне і гнеў і трывогу за край беларускі,
Каб шчымела душа каля іх дамавін і крыжоў,
Каб не згінуў іх след на гасцінцах і сцежачках вузкіх.

Адчуваю цяпло тваёй шчодрай маленькай рукі.
Веру, што не памру, у табе, тваіх дзецях ўваскрэсну,
Ты — праменьчык, што продкі мае падаюць праз вякі,
Ты — надзея мая і мая лебядзіная песня.

* * *

Цётка Палашка і дзядзька Рыгор,
Хатка пахілая, чысценькі двор,
Яблынькі песцяцца дружным радком,
Кветачкі вабяць красой пад акном.
Рукі старыя ад працы гудуць,
Ногі стамлёныя ледзьве ідуць.
Колькі аралі і жалі яны!
Колькі дабра і цяпла аддалі!
Колькі яны абхадзілі палёў,
І сенажацяў, і паплавоў!
Толькі чаму гэтак сэрца баліць?
Некаму ў старасці іх прыхіліць.

* * *

Мы не адчулі на сабе
Агню ваеннай замеці,
Але й мяне, як бацьку, б'е
Боль вечнай памяці.

Нялёгка гэты боль насіць,
Ды ўсе мы абавязаны
Заўжды людзьмі на свеце жыць,
Бо мы тым болем звязаны.

## МАЦЯРЫНСКАЕ

Мой сыночак ужо чытае,
Водзіць пальчыкам па радках,
Тайны вечнасці пачынае
Спасцігаць на маіх вачах.

Мой званочак, мая крывінка,
Як патрэбна мне знаць цяпер,
Што на лёсу твайго сцяжынках
Будзе госцем жаданым давер.

І людская увага заўсёды,
І узнёслая мара навек,
У суквецці вялікае згоды
Хай расце на зямлі чалавек.

Хай пазнае цану сяброўства
І кахання і чысціню
Найсвяцейшай любві бацькоўскай,
Кнігі мудрасць і глыбіню.

Мой грыбочак, мой каласочак,
Салаўіная песня мая,
Без дапытлівых гэтых вочак
Не глядзела б на свет і я.

* * *

Загінуў родны дзядзька мой Васіль,
На покуці — гітара-успамін.
Я ціха-ціхенька крану струну —
І ўваскрашу хлапечую вясну.

І ўваскрашу у памяці сваёй
Таго, хто незнаёмы быў са мной,
Аб кім я ведаю па маміных слязах
І па бабулі выцвілых вачах.

Я нарадзілася пасля вайны.
Чаму ж яна ўрываецца мне ў сны?
Віхурамі азмрочвае мой лёс,
Снарадамі, што рвуцца да нябёс?

Не знаю я апошні той спачын,
Дзе спіць матулін брат, бабулін сын,
Аплакваць буду, колькі буду жыць,
Усіх, хто без пары ў зямлі ляжыць.

* * *

Як міла ля роднае вёскі...
Мяне саграваюць паглядам бярозкі!
Нават у самыя цёмныя ночы
Свецяць мне, свецяць іх ясныя вочы.

Як свежа ля роднае хаты
Пахнуць садоў белакрылыя шаты!
Рукі матулі пахнуць спакоем,
Пенным бальзамам жыцця — сырадоем.

* * *

Палескі край, мая калыска,
Мой найсвяцейшы ў свеце Бог!
Мой золак сонечны, іскрысты,
Прыстанішча, куды здалёк

Заўжды з надзеяю ірвуся...
Паветра роднага глыну,
Магілам родным пакланюся —
І зноў шчаслівая жыву.

* * *

У маёй у хаце
Цуды-сонцы свецяць,
Што ж гэта за сонцы,
Што гараць бясконца?
Гэта мае дзеці.

У маёй у хаце
Песня не змаўкае.
Чый жа галасочак,
Нібы той званочак?
Гэта мой сыночак
Коціка спявае.

У мяне у хаце
Ліска-весялушка
Хвосцікам віляе,
Хату падмятае.
Што ж гэта за ліска,
Тварык у вяснушках?
То ж мая дачушка.

У маёй у хаце
Песню не стрымаці,
Хто ж яе спявае?
К небу узнімае?
Хто не верыць — верце,
Гэта маё сэрца.

# ЖАНЧЫНА Ў ЧОРНЫМ

Ў маім найласкавейшым краі,
Жытнёвым і зорным,
Часцей і часцей сустракаю
Жанчыну у чорным.

Чарнобыльскай даўняй тугою
Зажураны вочы.
Вядзьмарка — нядоля над ёю
Скуголіць-рагоча.

Мне стронцыю лютая сцюжа
Рве сэрца на часткі.
Каго пахавала ты — мужа?
А можа, дзіцятка?

Спляліся бяда і праклянцце
Ў сумесным хаўрусе.
У чым вінаватыя маці
Маёй Беларусі?

Прырода зямлю аздабляе
Красой бездакорнай,
І ўсё ж, як дакор, выступае
Жанчына у чорным.

## СПОВЕДЗЬ ПАЛЕШУКА

«Сядзець пара мне ўжо ля печы,
Ды не ўтрымаюся, дачушка,
Магілкі родныя ў Зарэччы
Завуць, трывожаць, будзяць душу.
І сад, што пасадзілі з дзедам,
І хата кліча ўдзень і ўночы,
Да Брагіна штомесяц еду...» —
Сказаў — і заблішчалі вочы
Няўцешнай горкаю слязою,
І задрыжалі раптам рукі...
Я захлынулася тугою,
Завошта нам такія мукі?
Чым правініўся перад Богам
Народ мой шчыры, працавіты?
Мой край засеяны трывогай,
Палынным смерчам апавіты.

* * *

Тут кожны пасталее без прынукі,
Калі не пасівее без пары,
Хавае дзед малодшага унука
У Хільчыцах, пад Туравам старым.

Хавае дзед няздзейсненыя мары,
Шаснаццаць год хлапчыначка пражыў
I стаў, як маці, атама ахвярай —
Памёр. Недакахаў. Недалюбіў.

Юначыя няздзейсненыя мары,
Як ластаўкі бяскрылыя, ў труне,
Палешукі з пакутаю на тварах
Дзяцей і ўнукаў трацяць на вайне.

Вайне нябачнай, ды не менш жахлівай,
Дзе кулі-невідзімкі ў сэрца б'юць,
Дзе атамным дажджом спавіта ніва,
Дзе атамныя досвіткі ўстаюць.

Калі для вінаватых прыйдзе кара?
Гасподзь магутны, дзе твой правы суд?
Апошнія свае надзеі, мары
Палешукі ў апошні шлях нясуць.

* * *

Радыяцыя сэрцы зашкальвае,
Горам, болем мы ўсе павязаны,
Нехта ўверсе паходню запальвае:
Выжыць мы абавязаны.

Пазіраюць як на смяротнікаў
На палескіх дзяцей цярплівых,
На маю Беларусь гаротную,
На паставы нашы пахілыя.

Ўспомнім постаці гордыя продкаў,
З імі вечнасцю мы павязаны.
Ўспомнім... Прыпяць шуміць паводкай:
Выжыць мы абавязаны.

# ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ

На крылах душы адляцела,
Каб толькі у песнях вярнуцца,
У сонечны «Дзень вечаровы»,
Ў «Каліну зімы» захінуцца.

Ах, Жэня, навошта так раніць
Народу пакутнаму сэрца?
Ад Ясельды — вечная памяць,
Ад Белае Русі — бяссмерце.

# МАЛІТВА

Божа, даруй мне маю спакусу
Выкласці шэраг мірскіх ідэй:
Няхай усміхаюцца беларусы,
Няхай усміхаюцца крыху часцей.

Хай шчаслівейшаю будзе іх доля,
Хай прыгажэйшым будзе іх лёс,
Гора зазналі яны даволі
І знемагліся ад горкіх слёз.

Не абкрадалі чужой зямліцы,
Не прыніжалі Тваіх святынь.
Завошта атрута паўсюль клубіцца?
За што ім чарнобыльскі горкі палын?

О Божа, памілуй народ шматпакутны,
Ўратуй беларускіх анёлаў-дзяцей,
Пашлі вызваленне ад цяжкіх путаў
І долю, вартую добрых людзей.

* * *

У Паселічах болей не селяцца,
Не раджаюць і не будуюцца,
Палыновая злая мяцеліца
Вымятае вясковыя вуліцы.

Тут матулі маёй радзіма,
Тут дзяцінства дарогі сцелюцца...
Дзядзька Янка і цётка Ніна
Засталіся адны у селішчы.

Засталіся адны на вуліцы,
Што гула, нібы вулей, некалі.
Хата к хаце спуджана туліцца,
Пеўні болей не кукарэкаюць.

За стракатымі агароджамі
Расцвітаюць сады самотныя,
Кветкі дзеткамі ненароджанымі
Ападаюць на дол, журботныя.

## ПАЛЕСКІЯ СОНЕЙКІ

Дзеці палескія з вёскі Зашыр'е
Спяваюць пад гукі гармоніка.
Коскі ільняныя, вочкі сінія,
Назва ансамбля — «Сонейка».

Людзі любуюцца і здзіўляюцца:
— Глядзі ты, якія здольныя! —
Песні бабуліны лёгка спяваюцца,
Імклівыя і раздольныя.

Песні вясковыя, песні бабуліны
Выклікалі авацыі.
— Дзетачкі,— нехта ўздыхнуў расчулена,—
З зоны ж яны, з радыяцыі.

Песню Палесся разгортвае шырай
Голас дзіцячы тоненькі...
Жывіце свой край цудадзейнай сілай,
Свяціце, душ нашых сонейкі.

# НАВАЛОКІ

— Куды ж мне? — ўздыхнула глыбока.—
Каму я патрэбна, старая?
«Чарнобыльскія навалокі»—
Так нелюдзі нас называюць.

Бабулька жыве самасёлам
У вёсцы былой, пахаванай,
Адна на усё наваколле,
Як птушка з крылом паламаным.

Як колас на спаленым полі,
Завяўшая ў лузе каліна...
Адна на усё наваколле
У зоне, нібы ў дамавіне.

Сышла з абразоў пазалота
У беднай закінутай хаце.
— Адна ў мяне, дзеткі, турбота —
На роднай зямельцы сканаці.

Стамлёныя пальцы крывыя
Крыж-накрыж прыклала да сэрца.
— Хай лёс ад нядолі вас крые,
А мне, дай Бог, лёгенька ўмерці.

## ІВАН МЕЛЕЖ У МАЗЫРЫ

Ён выйшаў на сцэну — зямляк-паляшук.
У зале раптоўна заціхлі,
Далоні вялікіх натруджаных рук,
Як крылы, стамлёна павіслі.

Не ведаў, што словы яго ў мазыран
Душу ўскалыхнуць назаўсёды,
Гарачыя вочы Гануль і Мар'ян
Засвецяцца шчырасцю, згодай.

Успыхнуць святлом незгасальным сваім,
Запаляць світанне над полем...
Шчаслівы — не зведаў чарнобыльскі дым,
Зайшоўся б, каб зведаў, ад болю.

* * *

*Максіму Багдановічу*

Даруй мне за слёзы, паэце,
Я знаю — ты слёз не любіў,
Як мала пражыў ты на свеце,
Як многа для свету зрабіў.

Над кнігаю сціплай тваёю
Бяссмерця іскрысты вянок,
Удзячнасцю светлай людскою
Напоўнен да краю ставок.

Не высушыць мора вятрамі
І неба дажджом не праліць,
Ўсё шырай, зычней над гадамі
Страцімава песня гучыць.

Даруй жа за слёзы, паэце,
Я знаю — ты слёз не любіў,
Так мала пражыў ты на свеце,
Так многа для свету зрабіў.

## ЗОСЬКА

*Купалавай гераіні*

Ззяюць радасцю вочы,
Песня льецца ракою,—
Зоська, Зосечка, Зося,
Што, дзяўчынка, з табою?
Лёгкі ветрык бярозкам,
Усхваляваўшыся, шчыра
Расказаў, што іх Зоська
Паніча палюбіла.
Да яго на спатканні
Кожнай ночы ўцякае
І на самым світанні
Дамоў прыбягае.
Захацеў лёгкі ветрык
Напіцца вадзіцы,
Перадаў тую вестку
Празрыстай крыніцы.
Зашумелі бярозкі,
Зажурчала крыніца:
«Зося, Зосечка, Зоська,
Што ты робіш, сястрыца?
Ён паніч, ён багаты,
Ты ж — галота, дзяўчына,
Ён пацешыцца трохі,
А потым пакіне.
У багатага сэрца
У грудзях, быццам камень,
Сцеражыся ад смерці —
Не вадзіся з панамі».
Усміхнулася Зоська,
Зазірнула ў вадзіцу.

— Ой, сяброўкі-бярозкі,
Ой, сястрыца-крыніца,
Не кажыце нічога
Благога — не трэба.
Толькі месячык знае
І зорачкі ў небе,
Як яго пакахала
Я сэрцам дзявочым,
Як яго я чакала
І днямі, і ўночы.
Ён мяне называе
Русалкай сваёю,
Ды, калісьці, напэўна,
І буду я ёю,
Бо люблю гэта царства
Русалак-сястрычак,
Там яны то, як рыбкі,
Гуляюць ў вадзіцы,
То на бераг выходзяць
І песні спяваюць,
Потым зноўку галоўкі
Ў вадзіцу хаваюць.
Ззяюць радасцю вочы,
Песня льецца ракою.
Зоська, Зосечка, Зося,
Што, дзяўчынка, з табою?

* * *

У дзень святое Еўфрасінні
Укленчу, шчыра памалюся
За лёс сваёй матулі мілай —
Старонкі роднай Беларусі.

У дзень нязломнай Еўфрасінні
Няхай з нас кожны усвядоміць,
Што повязь часу не загіне,
Што ўсе мы — у бацькоўскім доме.

Мы — дочкі і сыны Хрыстовы,
Не быць прыніжанай краіне,
Не быць зямлі той у аковах,
Што нарадзіла Еўфрасінню.

* * *

Калі стамлюся ад завей і ветраў
Пасля цяжкіх заснежаных дарог,
Ўзыду тады на самы чысты, светлы
Майго світання роснага парог.

Буслянка над вярбою будзе гушкаць
Мяне на крылах мараў і надзей,
Мой мілы бусел, я ўзлятаю птушкай,
Дык падтрымай, ўратуй жа, дабрадзей.

Дзіўлюся на халодныя аблогі
Сваёй радзімы з чуйнай вышыні,
А сэрца перапоўнена трывогай
За сённяшнія й будучыя дні.

Ці уратуем ад палыннай зоркі
Мы Беларусь — буслянку і дзяцей?
Ці уратуем? Бо пякельна-горкі
Наш лёс, наш крыж за ўсе грахі людзей.

Ці справядліва гэта? Ці па-божы?
Маўчыць сусвет, здранцвенне, немата,
Маўчыць Зямля, ніхто сказаць не можа,
Ці ўваскрасім распятага Хрыста.

Ды адступае скруха — у палёце
Ўжо гіне страх, саромеюся слёз.
І сэрца напаўняецца пяшчотай
І вераю у Бацькаўшчыны лёс.

Я бачу з вышыні — гудзе завея,
Але яснее, ўсё ж яснее шлях.
О Беларусь, жыві, мая надзея,
Мая буслянка, зорнай мары птах.

* * *

Я — галіна ад дрэва маёй Беларусі.
У крыві маёй — продкаў чысцейшая кроў.
Перад памяццю іх шчыра я паклянуся
Не прынізіць гонару дрыгавічоў.

З маіх вуснаў святцейшае слова Айчыны
Льецца, быццам у Прыпяць малы ручаёк.
Але ж як ён звініць — неспакойны, нястрымны,
Як бясстрашна ірвецца ў бурлівы паток!

Я — галінка ад дрэва маёй Беларусі,
Быць да скону хачу яе вернай дачкой.
Да шурпатай кары я шчыльней прытулюся
І адчую яе трапяткое цяпло.

* * *

І сніцца мне ружа,
Сарваная неспадзявана
Маёю рукой са святога
Хрыстова куста.

І сніцца мне жыта
І росны расквечаны ранак
На ніве нябеснай майго
Незямнога жыцця.

Не веру ў нябыт —
Успыхну над краем палескім
Вясёлкавым промнем,
Ціхмянай усмешкай зары...

Журбой журавіннай,
Нястомнаю жніўеньскай песняй,
Душа мая, звонка
З радзімай заўжды гавары.

* * *

Маладая князёўна Прадслава,
Чарадзея Ўсяслава унучка,
Прыгажосцю сваёй незвычайнай
Не адно устрывожыла сэрца.
Прыгажосцю і розумам светлым
Ласкавай і любай дачушкі
Ганарыўся ўладар крывічанскі
Святаслаў — горды Полацка князь.
Прыязджалі ганцы безупынна
Са Смаленска і Кіева ў Полацк,
З Наўгарода і Турава, нават
Ажно з грэцкай далёкай зямлі
Паглядзець на князёўну Прадславу,
На яе прамяністыя вочы,
На яе шаўкавістыя косы,
Ўславіць розум яе й хараство.
Ды Прадслава усе прапановы
Наконт шлюбу свайго адхіліла:
— Не хачу нічыёю быць жонкай,
Не жадаю ніякай уцехі
Для сябе як звычайнай жанчыны,
Лёс другое мне даў прызначэнне.
Прысвяціць сябе Богу і людзям,
Адшукаць для зямлі Крывічанскай,
Што вядзе радавод з Рагвалода,
Цудадзейную папараць-кветку...
На Купалле спраўляла вяселле
Сонца з Ладай — багіняю Лета,
Варажылі дзяўчаты, спявалі
І пускалі вяночкі ў крыніцу.

На Купалле князёўна Прадслава
Промні-косы свае распусціла,
Апранулася ў чорную сукню,
І душа яе сонцам заззяла...
На алтар Беларусі пакутнай
Прадслава яе аддавала,
Каб застацца святой Еўфрасінняй
У памяці продкаў навечна.

* * *

Сціпласць, шчырасць і чалавечнасць,
Дараваныя людзям з нябёсаў,
Праліліся дажджом залатым
На зямлю, на палі і паляны.
Толькі людзі чамусьці
Прынялі гэты дар за навалу...
У прадонні будзённасці шэрай,
У сутонні зласлівасці, здрады
Цяжка, мабыць, разгледзець жывіцу,
Ў кучы бруду знайсці залацінкі,
Ў хмарах тлуму заўважыць вясёлку,
Адагрэць дабрыню і спагаду
У душы раўнадушнай, халоднай.

* * *

Не выб'еш збалелую памяць —
Крыніцай пульсуе яна.
Навокал зімовая замець,
А мне ужо сніцца вясна.

Чаму так яе я чакаю?
Што сэрцу яна прынясе?
Як быццам збавення шукаю
У той жыватворнай красе.

А можа, чакаю дарэмна?
Цярпення у сэрца прашу,
Па сцежках душы патаемных
Сяброўку-надзею нашу.

* * *

Таямнічасцю ноч ап'яняла,
Ціха-ціха мяне калыхала
І дыханнем сваім саграvала.
Таямнічасцю ноч ап'яняла.

Закрываліся вочы ад стомы,
Чуўся зорак квітнеючых гоман —
Гэтак блізкі мне, гэтак знаёмы,
Чуўся зорак квітнеючых гоман.

Спалі вочы, ды сэрца не спала,
Дня ў маўклівай трывозе чакала,
Мне спакою і ў сне не давала.
Спалі вочы, ды сэрца не спала...

* * *

Вербачка у полі
Слёзы пралівала,
Слёзы пралівала,
Ночанькі чакала.
А як дачакалася —
Косы распусціла,
Косы распусціла
Ды загаманіла:
«Ночанька-матулька,
Зоркі-зараніцы,
Зоркі-зараніцы,
Родныя сястрыцы.
Толькі вам адкрыю
Сэрца свайго рану —
Ў ветрык я духмяны
Моцна закахана.
Ранняю вясною
У шырокім полі,
У шырокім полі
Ён гуляў на волі.
Весела кружыўся,
А як мяне ўбачыў,—
Ён аж заіскрыўся
Позіркам гарачым.
Як мае галінкі
Цалаваў ён, песціў,
Небу, як пушынку,
Іх гатоў быў несці.
Кожны мой лісточак
Лашчыў ён і гушкаў,

То звінеў званочкам,
То ўзвіваўся птушкай...
Вербачка у полі
Слёзы пралівала,
Слёзы пралівала,
Начанькі чакала.

* * *

Люблю рашучасць рэк скаваных,
Бунтарскі голас іх, уздым,
Снягоў апошніх чорны дым,
Скрыпучы трэск ільдоў-кайданаў.

Люблю салюты навальніц,
Садоў вясновых летуценне,
Світання чыстае здзіўленне
І вочы смелыя зарніц.

Гляджу, як дождж залаты
Зямлю засмяглую цалуе,
Як ім назло пяе, раўнуе
Вятрыска, хлопец малады.

І сэрца быццам маладзее
Ад свежых подыхаў вясны,
І сняцца радасныя сны,
І зноў жыццё, і зноў надзеі.

* * *

Маладосць мая прайшла на сцэне,
Акрыліла, ўзнесла да нябёс...
Без тэатра шэрым і няпэўным
Я пераканана — быў бы лёс.

Я была чароўнаю прынцэсай,
Хітраю пранырaю-лісой,
А ў жыцці — дзяўчынаю з Палесся,
Сціплаю Клімовіча дачкой.

Я была Паўлінкаю і Зоськай,
Песняю Купалы расцвіла,
Зашумела стройнаю бярозкай,
Васільком Максімавым ўзышла.

Многім сніцца, што яны лятаюць,
Над зямлёй — бы птушкі, зіхацяць,
Я ж на сцэне ў снах сваіх лунаю,
Мне ўжо іх ніколі не суняць.

* * *

*Міхалу Яўхімавічу Коласу*

Міхал Яўхімавіч, маэстра Колас,
Як люба нам пачуць Ваш зычны голас!
Як радасна паціснуць Вашы рукі,
Сустрэцца пасля доўгае разлукі.

Жыхар Расіі — Вы заўсёды з намі.
З бацькоўскімі магіламі, крыжамі.
З палескай старажытнаю зямлёю
З'яднаны Вы ўсёй сутнасцю сваёю.

Ваш талент рэжысёрскі і акцёрскі
Узрос на ніве беларускай вёскі.
Пра самародка з лельчыцкіх загонаў
Казалі Талін і Масква натхнёна.

Ў вяночку васільковым задуменна
Паўстала наша з Вамі Мельпамена.
У світах тканых, вышытых кашулях
Мацней мы мову, Беларусь адчулі.

Купалаўскай дзівоснай песні сіла
Заваражыла нас і акрыліла.
Дух паляшуцкі мележаўскай прозы
Нас парадніў — такіх нястрымных, розных.

Мустай Карым, і Бабель, і Астроўскі
Гучалі ў ціхіх вёсках прыдняпроўскіх.
Мы неслі па-над Прыпяццю, Гарынню
На сцэну свет рэальны і былінны.

Мы бачылі, як зіхацелі вочы
Палешукоў-сялян у змроку ночы.
Наш строгі рэжысёр такім лагодным,
Узнёслым быў пасля спектакляў годных.

Як шчыраваў, ахвяраваў сабою!
Каб стаў тэатр для кожнага сям'ёю
Патрабавальнай, працавітай, дружнай,
Дзе ў працы загартоўвалася б мужнасць,

Дзе гаспадыняй стала б дысцыпліна,
Дзе думка творчая жыла б няспынна...
Жыві, тэатр, асвечаны крывёю
Фанатаў з апантанаю душою.

Мазыр, край родны, нізка пакланіся
Таму, хто вёў нас да парнаскіх высяў.
Яму не шэсцьдзесят, а толькі трыццаць...
Палескі Колас будзе каласіцца...

# ПРЫВІТАЛЬНАЯ

Узыходзіць зара світальная.
Над Прыпяццю ярка гарыць.
Палескую прывітальную
Мы вам праспяваем, сябры.

Каб сэрца натхнёна білася
Ад добразычлівых вачэй,
Каб ваша душа свяцілася
Ад песні сардэчнай ярчэй.

За пушчамі векавечнымі
Буслы сцерагуць стагі...
Жыве Беларусь — і вечная
Над ёй наша песня гучыць.

* * *

*Прафесару Івану Уладзіміравічу Дудзе*

Людзей я пазнаю
Па свету іх вачэй,
Чым болей дабрыні,
Тым гэты свет ярчэй.

Людзей я пазнаю
Па свету іх душы,
Чым болей дабрыні,
Тым болей чысціні.

Прамені дабрыні
Няцяжка распазнаць,
Калі умееш сам
Іх людзям аддаваць.

# ПОЛЕ ДАБРЫНІ

*Людміле Мазанік*

— Шчаслівая,— сказала мне жанчына,
Калі адчула, што заўжды гатова
Аддаць часцінку грэшнае душы
Я для людзей, дзеля дабра, спагады...
Бо столькі на зямлі яшчэ няшчасных,
Закінутых, пахілых і нямоглых,
Бы ў полі несабраных каласоў.
Знайсці патрэбна кожнае зярнятка,
І адагрэць рупліва, і засеяць,
Каб зашумела поле дабрыні,
Каб болей нараджалася шчаслівых.

* * *

— Матуля, галубка,— спявае дачушка,—
Пагушкай, хачу я адчуць сябе птушкай.
І хлопчык маленькі падскоквае ў хаце,
Ён хоча таксама лятаці.

О дзеткі мае, птушаняткі малыя,
Расціце, званочкі мае лугавыя,
Расціце, хутчэй набірайцеся сілы,
Матуля разгорне вам дужыя крылы,
Навучыць лятаці да самых аблокаў
Над роднаю хатай, пад небам шырокім.

* * *

У галоўках ільняных дзіцячых,
У вачах, што цвітуць васількамі,
Я адбітак мінуўшчыны бачу,
Продкаў цені ўзняліся над намі.

Пахам Бацькаўшчыны ажынным,
Колькі жыць буду — не наталюся,
Не губляйце да продкаў сцяжыну,
Памятайце, што вы — беларусы.

* * *

Танцуе русалка на дзікай паляне
Пад музыку дзіўную Леля,
О Божа, як гуслі пяюць у тумане,
Спавітыя радасцю хмельнай!

Танцуе русалка у Тураўскай пушчы,
Спазнаўшы ўсе мукі кахання.
У свеце халодным вядзьмаркай бяздушнай
Яе наракл́і да сканання.

Яна даравала нябогам знявагу...
Над Прыпяццю соннай лятае,
Для ўсіх нешчаслівых нястомная прагна
Ўсё папараць-кветку шукае.

* * *

Дзяўчыначкай, вясёлай перапёлачкай
Я прыляцела у чароўны сад
Вялікага, бязмежнага мастацтва,
І прычасцілася з крыніц натхнення,
І зазірнула ў вочы Мельпамене.
Яна сказала: «Што ж, красуй, расці,
Актрысай будзь, ды памятай — на сцэне,
Не давядзі Гасподзь, каб у жыцці».

* * *

Аглядаю далягляды лёсу,
Удыхаю радасць і пакуты,
Іду з высока ўзнятай галавой,
Хоць цяжар мітусні ляжыць на сэрцы.
Ўтрапёнасць пошукаў, трысцё сумненняў
Не перашкодзяць тым, хто разумее,
Дзеля чаго прыйшоў і кім паслаyы
У гэты свет трывожны, неспакойны.
— Ты хочаш чысціні? — пытае лёс.—
Змагайся век за чысціню сумлення.
Ты хочаш быць каханай? — Будзь,
Ды памятай, што росны россып шчасця
Прыходзіць найчасцей праз боль і слёзы.
Ты прагнеш творчасці? — Твары, дзівачка,
Журыся над радком, пасі натхненне,
Круці верацяно нездавальнення,
Выцягвай па крупінцы з багны, бруду
Праменні дабрыні, высакародства...
Будзь мужнай да канца. Не адступіся.

* * *

Я іграла Паўлінку,
Як ніколі раней не іграла,
Мне здалося, што з залы
На мяне пазірае Купала.

Ён сядзеў задуменны,
Нечым вельмі падобны на тату,
Я касу заплятала,
І Якімку праводзіла з хаты,

І гасцей сустракала,
І аплаквала горкую долю,
І спявала, як птушка,
Над радзімым гняздом на прыволлі.

Я іграла Паўлінку,
Як ніколі раней не іграла,
Мне здалося, што з залы
На мяне пазірае Купала.

Гэтым позіркам шчырым
Дасюль маё сэрца сагрэта,
Хоць даўно не Паўлінка,
А хутчэй яе маці— Альжбета.

* * *

*Памяці Галіны Макаравай*

Я памятаю кожны штрых
Яе сцэнічнага жыцця.
Не веру, што апошні ўздых —
Мяжа быцця і небыцця.

Не веру, што яе няма.
Бо немагчыма уявіць
Мне без яе ні «Трыбунал»,
Ні «Вечар»... Як душа баліць...

Як не хапае нам яе
Высокай, шчодрай дабрыні!
Стаяць купалаўцы ў журбе,
Ўвесь край наш галаву схіліў...

Не веру, што апошні ўздых —
Мяжа быцця і небыцця.
Жыве аблічча кожны штрых
І першароднасць пачуцця.

* * *

*Андрэю Іванавічу Лазароўскаму*

Не для гучнае гаворкі,
Не для пышных слоў
Лёс акцёрскі, часам горкі,
Несці ён гатоў.
На зямлі мазырскай роснай,
У цішы дубраў
Талент светлы і узнёслы
Рупна узрастаў.
Набіраўся моцы з песняў,
З родных каранёў
І, як месяц, над Палессем
Раптам узышоў.

## «КАЛІ ЛАСКА»

Я ўдзячна вам, дзеці, за памяць,
За ўсё, чым жылі мы у школе,
Маладосці вясновая замець
Прашумела, не вернецца болей.

Вераснёўскія цёплыя астры
Вы дарылі настаўніцы юнай,
Не завялі яны, не пагаслі,
Грэюць сэрца нацятыя струны.

Беларуская звонкая мова
Не была для вас цёткай нянаскай,
І мянушкай мяне адмысловай
Ўзнагародзілі вы — «Калі ласка».

«Калі ласка» — спявала на сцэне,
«Калі ласка» — чытала Купалу,
Я шчаслівай была б, каб насенне
Ўсходы шчодрыя падаравала.

Каб гучала для вас: «Калі ласка»,—
Як матуліна песня, як бабуліна казка.

## ПЕСНЯ

Спявае дзяўчыначка на сенажаці,
Ды так пранікнёна, узнёсла,
Успомніла я залатое юнацтва,
Жыцця незабыўныя вёсны.

Ўся вёска звінела ад песень дзівосных
На працы, на полі, у лузе.
Снаваліся, ткаліся, нібы на кроснах,
Спяванкі маёй Беларусі.

Пачуйце ж, як хараша на сенажаці
Заводзіць красуня-дзяўчына.
Пакуль будзе родная песня гучаці —
Датуль Беларусь не загіне.

* * *

Дняпро і Сож — малойцы гаманкія
Сустрэліся пад Лоевам ласкавым
І моцна па-сяброўску абняліся,
Каб парадніцца назаўжды, навекі.
Дняпро і Сож мяне упадабалі,
Закалыхалі на халодных хвалях,
Зачаравалі берагам высокім,
Шапталі: «Стань надрэчнаю вярбою...»
Мы будзем цалаваць твае калені,
Мы будзем абмываць твае лісточкі,
На досвітку паклонімся Дзянніцы,
А на змярканні стрэнем Вечарніцу...
Ты станеш нашай Ладай клапатлівай,
Ты станеш нашай песняй цудадзейнай,
Цябе ўшануюць Дажбог і Ярыла,
Пярун тваіх крыўдзіцеляў павергне».
Падзякавала я Дняпру і Сожу,
Адмовілася стаць вярбой надрэчнай,
Сказала: «Я спяшаю на радзіму —
Да старажытнай Тураўскае пушчы,
Да курганоў мазырскіх блаславёных.
Я — чайка з Прыпяці, дачка Палесся».

## МАЗЫР

Пяць курганаў над Прыпяццю сіняй
Узіраюцца ў зорную шыр.
А на іх свае крылы раскінуў,
Нібы сокал, мой любы Мазыр.

На палескія далі-абшары
Любавацца зручней з вышыні,
Князь Астрожскі граміў тут татараў,
Пралятаў на гарачым кані.

Цераз пушчы і буры-віхуры
Аддаеш ты братэрскі паклон
Старажытнаму Полацку, Тураву,
Чуеш Кіева велічны звон.

Ты паходню сваю узнімаеш
На сумежжы быцця й небыцця,
Я табою душу ачышчаю —
Бы ў юнацтве — на схіле жыцця.

* * *

Бусел у сарочцы вышыванай,
Бел-ружовай, з чорнаю каймою,
Увесь абліты чырванню світальнай,
Пралятаў над Прыпяццю-ракою.

Узмахнуў крыламі над дамоўкай,
Клапатліва пакружыў над ёю,
Двое дзетак, птушанятак лоўкіх,
Ён нажыў з бусліхаю сваёю.

Заклякоча радасна і шчыра —
Заспявае, зазвініць Палессе,
Не спяшае у далёкі вырай,
Не пяюцца на чужыне песні.

## МАЛІТВА БЯРОЗЫ

Бярозка працягнула тры галінкі,
Як сцежкі паміж небам і зямлёю,
Як рукі, што застылі у малітве,
Як напамінак пра нябыт і вечнасць...
Узвышанасць, узрушанасць святая
Бярозкі юнай мне перадаецца,
Перапаўняе сэрца дабрынёй,
І прагаю кахання, і пяшчотай
Да неба, да зямлі і да людзей.

## БЕЛАЯ ЛІЛЕЯ

Белая лілея, гуска беларуская,
Лотаць цябе грэе мацярынскай хусткай,
Абмываюць хвалі ножку крамяную,
Напяваюць вербы песню веснавую.

Сонейка цалуе твар бялюткі-белы,
Месяц пазірае на цябе нясмела,
Ветрык асцярожна твой убор шыкоўны
Гладзіць, распраўляе — шляхціц памяркоўны.

Позіркам дзівосным саграваеш душы,
У тваіх пялёстках — водар Беларусі.
У празрыстых хвалях і ў балотнай твані
Застанешся белай, чыстай і жаданай.

* * *

Калі табе за трыццаць перайшло,
Не гарачыся і не мітусіся,
Гадуй дзяцей, каханнем атуліся,
Жыві, красуй і думай пра дабро.

Калі табе за сорак перайшло,
Спакойна шлях свой змерай, азірніся
І мудрасцю з унукам падзяліся,
Ўзгадоўвай у душы яго цяпло,

Калі за сем дзесяткаў перайшло,
Шаноўны дружа, надта не журыся,
Аб дамавіне шчэ не клапаціся,
А жыта сей і думай пра жніво.

* * *

Шыпшына, красуня ружова-зялёная,
З маленечкім сонейкам-сэрцам,
Чароўнасцю, светам жыццёвым натхнёная,
Ты ўся — як пратэст супраць смерці.

Пялёсткі раскрыты, як чулыя, прагныя,
Да ласкі пяшчотныя вусны,
Галінкі, як рукі жаночыя зграбныя,
Што свецяцца промнем спакусы.

Шыпамі сваімі застрэміш крыўдзіцеля,
Сурова адкажаш на ганьбу...
Ты плачаш? Як я, ненагляднага віцязя
Згадала у смутку, у жальбе.

Шыпшына, сястрыца мая задушэўная,
Паплачам, абняўшыся, ў скрусе,
Мы — дзеці з табой неразлучныя, крэўныя
Матулі адной — Беларусі.

* * *

Ноч, вакол таямнічасць і смутак,
Цяжка возера ў сне уздыхае,
Вецер змроку чароўныя путы
Сумнай песняй сваёй разрывае.

Вербы нізка схілілі галовы,
Ў сонным возеры дня выглядаюць,
Ноч — матуля пад цьмяным пакровам —
Іх халодныя грудзі хавае.

Толькі зорачкі смутку не хочуць,—
Ў сіняй бездані ззяюць вясёла,
Ціхай радасцю свецяць іх вочы,
Рассыпаючы ўсмешкі наўкола.

* * *

Край палескі наш багаты
На дзявочую красу.
Беларускія дзяўчаты,
Як каліначкі, цвітуць.

Тварык чысты, воблік светлы,
Мілагучнасць родных слоў,
Іх гасціннасць, шчырасць, ветласць —
Дар бясцэнны ад дзядоў.

Шчочкі ўспыхваюць зарніцай,
Вочы — зоркі-мілавіцы,
Вусны — свежыя суніцы,
Голас — чыстая крыніца.

Не ганьбуюць ні сяўбою,
Ні праполкай, ні жатвою,
Не пагрэбуюць работай,
Як шчыруюць — дык да поту.

Расцвітаюць на Палессі,
Як каліны, як пралескі,
Беларускія дзяўчаты...
Паспяшайце, хлопцы, ў сваты.

* * *

Гаворацъ, што стары Мазыр
Купаецца, бы ў масле сыр.
Мазыраначкі — як вясняначкі,
Вочкі свецяцца ясным месяцам,
Шчочкі рдзеюцца ясным сонейкам,
Валасы гараць ясным праменем...
Дык вось чаму стары Мазыр
Купаецца, бы ў масле сыр.
Ён, кажуць, перамаладзеў,
Бо прыгажосцю сэрца грэў.

* * *

Прымае прырода чарговыя мукі,
Змагаецца дрэва за кожны лісток,
Ўздымае да неба галіны, як рукі,
І просіць Ўсявышняга, каб дапамог.

Магчыма, так доляю наканавана —
Не вечна нічога пад вечным шатром,
Хто б ні нарадзіўся — гуллівы, рахманы,
Свой шлях чалавечы завершым, памром.

Змаганне душы і цялеснае тленне —
Такі чалавечы касмічны прасцяг,
Ўсявышняму цяжка паслаць ўсім збавенне,
Жахліва-кароткі жыццёвы наш шлях.

Прымае прырода чарговыя мукі,
Змагаецца дрэва за кожны лісток,
Узнімем да Бога стамлёныя рукі,
Папросім Ўсявышняга, каб дапамог.

* * *

Вазьму камандзіроўку ў лістапад,
У вогненна-барвовы, залацісты,
Халодна-золкі, ярка-прамяністы,
У грудзеньскі нясмелы снегапад.

Пад восеньскім сузор'ем Скарпіёна
Я нарадзілася на белы свет,
Пад покрывам — супольнасцю планет,
Што ўдалеч углядаюцца натхнёна.

Што значыць сорак, пяцьдзесят гадоў
У параўнанні з вечным зарападам?
З маім шчымліва-родным лістападам,
Што мне падараваў жыццё, любоў!

Я дагару бярозавым лістком,
У белым вогнішчы снягоў і сцюжаў,
Таму так прагну да канца адужаць
Той келіх, што прызначаны жыццём.

Хачу пражыць сумленна і высока...
Каб хоць часцінку вечнасці спазнаць
І ўвесь запал душы сваёй аддаць
На радасць Беларусі сінявокай.

* * *

Дзядзька Колас, Канстанцін Міхайлавіч,
З хваляваннем уваходжу зноў
У Ваш дом, рукой сагрэты дбайнай,
У Ваш сад з напевамі бароў.

Шэпчуць штось бярозкі задуменна,
Мне душу лагодзіць цішыня.
Раптам рыжы камячок імгненна
Ўспыхнуў свечкай сярод бела дня.

Вочкі заіскрыліся агнямі.
Мілая вавёрачка, пастой!
Дзе там... Узнялася лёгка, плаўна
І цікуе дзесьці за сасной.

Я стаю — вачам сваім не веру...
На праспекце шумным гарадскім —
Камячок пяшчоты і даверу,
Напамінак грэшным аб святым.

* * *

Прычашчаюся словам сардэчным,
Наталяюся моваю вечнай...
Ты — палын мой і мёд,
Мой давер і адчай,
Ты — нясцерпны мой боль,
Апраметнасць і рай,
І бяссілле, і гнеў,
Зорнай мары напеў.
Крыж распяцця і ўваскрасення майго,
Што пазбавіў мяне ад хлусні і спакус,
Ты — святая малітва мая, Беларусь.

* * *

Цярпліва ўзрыхляю поле Дабрыні,
Засяваю яго зярнятамі Спагады,
Аздабляю яго вяночкамі Надзеі,
Няхай каласіцца пад небам Кахання.

* * *

Твой голас, твае вочы, твае рукі
Жывуць ўва мне, як сутнасці світанне,
Як непакора лёсу і сусвету...
Святая недарэчнасць існавання
Яшчэ адной няспраўджанай надзеі,
Святая прастата майго кахання
І веліч невыносная пакуты.

* * *

Рабіна, пакрытая снегам іскрыстым,
Такая святочна-ўрачыстая сёння,
Такая прывабна-прыгожая, чыстая.

У чырвані гронак пяшчотнай, нясмелай
Прыгадваю воблік дзяўчынкі з Палесся
І тварык ружовы пад вэлюмам белым.

А сіняе неба нагадвае вочы
Усіх беларускіх жанчын і дзяўчатак,
Іх лёс незайздросны, нялёгкі жаночы.

І вэлюм знікае... Самотна наўкола,
Сняжынкі на гронках, нібыта слязінкі
Па тварыку, ціха сцякаюць дадолу.
Жаночая доля...
Што ж плакаць?
Такая жаночая доля.

* * *

Янка, Яначка, Іван Антонавіч,
Простае і яснае імя...
Белым цветам адцвілі антонаўкі,
Жаўранкі над жытам зіхацяць.

Мы ідзем сцяжынкаю вясковаю,—
Школьныя шчаслівыя дзянькі.
Бачу твае вочы васільковыя,
Прагну дотыку тваёй рукі.

Ды душа твая цвіце, хвалюецца
Ад вачэй дзяўчыначкі другой,
Тая смела з хлопцамі цалуецца...
Божачка, што дзееца са мной!

Разлілася Прыпяць неўгамонная,
А за ёй — свавольніца Гарынь,
Сэрца маё, сэрца неспакойнае,
Не трывожся так, крыху астынь.

Раніцою выскачу на ганачак,
Песню чыста, звонка распачну,
Каб за тры вярсты няўдзячны Яначка
Крык душы дзявочае пачуў.

Праплыву ля школы гордай паваю,
Незалежна бэз рукой крану,
Ўбачу вочы Яначкі ласкавыя,
Зазірну — і зноўку патану.

* * *

Слухаю пяшчотныя
Ліпеня замовы,
Сонечныя промні,
Ласкавыя словы.

Уплятаю ў сэрца
Чысціню світання,
Ачышчаю душу
Тайнамі змяркання.

Я сябе у мроях,
Песнямі спавітых,
Бачу маладою,
А жаніх мой — ліпень.

* * *

Я чакала цябе так, як могуць чакаць
Песняй весняю закалыханыя,
Не, не здольны ніхто так свой лёс прадчуваць,
Як жанчына з душою параненай.

Я шукала цябе і наяве, і ў сне,
Сатварыла свой рай, сваю мару,
Хоць прадбачыла, ведала — не абміне,
Напаткае нядоля-навала.

Я знайшла цябе, любы... Стаю у слязах,
Раўнадушшам тваім зацугляная,
Рвуся промень убачыць у сумных вачах,
Штосьці шукаю душою параненай.

* * *

Як шкада — не ружа-кветка я,—
Васілёк,
Пазіраеш на мяне здаля
Без трывог.
Некага ўзнясеш усёй душой
Да нябёс,
«Будзеш нешчаслівы ты з другой»,—
Кажа лёс.

* * *

Апрану сукенку ільняную,
Запляту іскрыстую касу...
Божа, дай мне долю агнявую,
Болей ні аб чым не папрашу.

Маладосць — мая сястра да скону,
Старасць — мая мачыха здаўна,
Між жыццём і смерцю неўгамоннай
Даўняя крывавая вайна.

Я ж — іскрынка ў хуткаплынным часе,
Кволая крывінка дабрыні...
Божа, дай жа сэрцайку не згаснуць,
Каб пакінуць зерне у раллі.

* * *

Даравала рамонкі,
Рассыпала пялёсткі,
Смяялася звонка
Пад белай бярозкай.

А цяпер прабягаеш,
Як не заўважаеш,
Перапёлкай тужлівай
Глядзіш сіратліва.

Эх, людскія напасці,
Плёткі ды нагаворы...
Як жа блізка ты, шчасце,
Стаіш каля гора!

* * *

Не крыўдуй на мяне, што маўчу,
Не званю, не пішу, не чакаю,
Толькі часам у сне закрычу,
Горкай каняй цябе пагукаю.

Нібы бура, маё пачуццё
Адшумела, заціхла, ўляглося...
Толькі ў полі душы не трысцё,
А буйное квітнее калоссе.

Часам ростань мяняе тугу
На цвярозы спакой і на роздум,
Зноў у сне на спатканне бягу
І баюся, што позна ўжо, позна...

* * *

Будуць вёсны і зімы,
Будзе сонца і снег,
Журавінна-ажынны
Серабрысты твой смех.

Будуць песні і слёзы,
Споведзь чыстай душы,
Залатыя бярозы
Паабапал шашы.

І вясновае ранне,
І ружовы усход,
Не спяшайся, змярканне
Маладых маіх год.

## АСЕННЯЕ

*Тихо льется с кленов листьев медь.*

*Сяргей Ясенін*

Што са мною? Слёзы з вачэй,
На душы — трывогі агонь,
І нічога няма бліжэй,
Чым твой позірк, твая далонь,

І ўладарныя вусны твае,
І срабрысты разліў валасоў.
Часам людзям вясной не стае
Палымяных асенніх слоў.

І не можам тады зразумець,
Явай гэта было ці сном.
...Льецца лісцяў асенніх медзь,
Грэе сэрца вясновым цяплом.

* * *

Не патрабуй, каханы мой, пакоры,
Знай, незалежнай я заўжды жыву,
Не абцяжарвай рэўнасцю, дакорам
Прыгожую сівую галаву.

Душа — не прыдарожная лазіна,
Яе ламаць, крышыць — вялікі грэх,
Перад табой і Богам я — жанчына
І створана не толькі для уцех.

З табою мне так добра і спакойна,
А сэрца птушкай рвецца у працяг.
Хай недаверу заціхаюць войны
І свеціцца каханне у вачах.

* * *

Узгадавала у душы
Я мару-спадзяванку,
Хачу табе я падарыць
Кашулю-вышыванку.

Каб пра мяне не забываў
Ні ў будні, ні на святы
І каб пасля жніва прыслаў
Да нашай хаты сватаў.

* * *

Усміхнуся вачам васільковым,
Валасам серабрыста-шаўковым,
Ножкам лёгкім, тонкаму стану,
Шчочкам мілым, губкам крамяным,
Галасочку, нібы ручаёчку,
Што звініць у маім садочку...
Паляшучка мая, палясянка,
Беларускай зямлі заранка.

* * *

Яшчэ рабіна не паспела,
А сэрца песні папрасіла,
Душу надзеяй акрапіла...

Яшчэ рабіна не паспела,
А сенакосы сняць атаву
І палыновы пах гаркавы.

Яшчэ рабіна не паспела,
Але уся гарыць чаканнем,
Барвовых гронак мілаваннем.

* * *

Сагрэю пацалункам ружу-кветку,
Яе пялёсткі, як кахання вусны,
І растваруся на імгненне ў нетрах
Цнатлівасці і слодычы-спакусы.

Сагрэю пацалункам ружу-кветку,
Пялёсткі дабрыні, часцінкі сонца,
Няхай імгненне доўжыцца бясконца,
Няхай імкнецца ў вечнасць.

Сагрэю пацалункам ружу-кветку,
Цяплом сваёй душы, святлом кахання,
І пачуццё успыхне znічкай светлай,
Калі ні ружы, ні мяне не стане.

* * *

Ты падобна на дрэўца,
Што красуе пры рэчцы.
Зазірні ў маё сэрца,
Нібы ў люстра-ваду,
Цераз вёсны і сцюжы,
Цераз жыцці і смерці
Да цябе я плыву.

Ўздоўж ракі — сенажаці,
За ракою — дуброва.
Зацвітае каліна
На мурожных лугах.
Мне патрэбна так мала:
Адно тваё слова —
Адно слова — кахаю —
Каб было на губах.

* * *

Цалую гронкі бэзу,
А можа — Вашы вочы?
Дзяўчынкаю-гарэзай
Вясна ў душы сакоча.

Ласкавыя пялёсткі
Разгладжваю рукою,
Шкада, што Вашы вёсны
Расквечаны другою.

На скронях — серабрынка,
Што восень падарыла,
А я, нібы дзяўчынка,
Імчу ў вясну на крылах.

* * *

Вытанчаны профіль,
Вытанчаны стан...
Бараніце, богі,
Я трапляю ў зман.

Я трапляю ў перлы
Дзіватворных сноў,
Струн — нацятых нерваў —
Перарву сіло...

Зарывам гарачым
Сэрца палыхне,
Той, хто не заплакаў,
Песні не спяе.

Вытанчаны профіль,
Вытанчаны стан,
Блаславіце, богі,
На любоў-падман.

* * *

Я спатыкнулася аб хмары
Тваіх вачэй, каханы...
Як патушыць маланкі раўнадушша
У іх, калісь такіх бяздонна-чыстых?
Як аднавіць абсяг надзей і мараў?
Вырошчвалі ж мы іх ад нараджэння,
Падараваныя адно другому
Господняю рукой, рукою лёсу.
Чаму сваю парушылі мы згоду?
Так праглі да святла,
А напаткалі сцюжу.
Іржышча нашага кахання
Бязлітасна абоім раніць сэрца.

* * *

Вы абудзілі у душы маёй
Той самы светлы, чысты успамін,
Які квітнеў забыты, адзінокі,
Бы пры дарозе трапяткі язмін.

Пабачылі Вы ў позірку маім,
Такім стамлёным і такім гарачым,
Былое Вашае вясны парыў,
Ваш ідэал, Ваш зорны час юначы.

* * *

Мне сніўся сон, нібыта мы з табой
Танцуем, быццам зоркі ў паднябессі,
Блукаем у касмічным сінім лесе,
Лятаем над блакітнаю зямлёй.

Твой мілы твар свяціўся дабрынёй,
Тваё крыло я адчувала сэрцам,
На хвілю ад бяды, на крок ад смерці
Лядалі мы над грэшнаю зямлёй.

Якія мы шчаслівыя з табой,
Што хоць у сне ўзняліся да нябёсаў,
Над беспрытульнасцю людской, над лёсам,
Над грэшнаю і праведнай зямлёй.

* * *

Я шаную цябе за тваю дабрыню,
За вачэй прамяністых адданасць.
Хоць і ў сне у абдымках тваіх не ўяўлю
Я сябе, мой харошы, жаданы.

Мы абралі Сяброўства замест Пачуцця,
Сціплы поціск рукі, позірк шчыры.
Ты — як брат, я таксама, відаць, як сястра,
Для цябе назаўжды, да магілы.

Адкрасуе жыццё, прыйдзе сумная смерць...
На нябесных шляхах-скрыжаваннях
Мы з табою сустрэнемся, каб зразумець —
На Зямлі засталося каханне.

* * *

Падмятала я святліцу дый шырокую,
Успамінала я Мікіту яснавокага.
Падмятала я бакоўку — усміхалася,
Успамінала, як з Міколкам мілавалася.
Сэрца птушкай ўстрапянулася на ганачку,
Можа, ўспомніла пра скрыпачку, пра Янaчку?
Ой ты, долечка жаночая гаротная,
Кавалераў — цьма, а я адна самотная.
Людзі кажуць: «Са сваімі пераборамі
Застанешся векавухай, гора горкае...»
Да каго ж мне прыхінуцца? — дайце радачкі,
Да Мікіты? Ці Міколкі? Ці да Янaчкі?

* * *

Ішла дзяўчынка-журавінка
Лясной няходжанай сцяжынкай,
Каса, як промень, зіхацела,
Ў вачах крынічанька святлела,
Ёй за пашану і за ласку
Спявала пушча песню-казку,
Схілялі сосны нізка голькі
Свае да русае галоўкі.
Махалі аксамітнай хусткай:
«Расці, красуня-беларуска».

* * *

Рамонкі надзеі жаночай
На росных лугах расцвітаюць,
Таемнасцю мілай вітаюць
На ласку і шчырасць ахвочых.

Купаюцца ў марах агністых,
Іскрацца пяшчотаю вочы,
Як хочацца споведзі чыстай
На ласку і шчырасць ахвочых!

Рамонкі надзеі жаданай,
Цвіціце заўжды на світанні,
Хай квеценню роснай, духмянай
Аздоблена будзе каханне.

* * *

Я шукала, гукала цябе, кветка шчасця,
Не знайшла, не спаткала, не ўбачыла.
Можа б, ты ўратавала мяне ад напасці,
Можа б, жорсткі наш лёс перайначыла?

Дажыву палыновы свой век без дакукі,
Ўсё прыму, што прызначана доляй,
Толькі ты расцвіці для дзяцей і для ўнукаў,
Дай ім шчасця хоць крышачку болей.

* * *

Каханне я сваё даўно праверыла,
Нялёгкай меркай вёснаў перамерала.
Як маці дзіцянё, яго насіла,
Як птушка птушанё, лятаць вучыла.

Былі ў ім сакаліныя высоты,
Былі ў ім і падзенні без узлёту...
Мне без яго, як полю без раллі,
Мне без яго, як небу без зямлі.

Мне з ім, як пчолцы ў сонца зыркіх косах,
Мне з ім, як кветцы у гаючых росах.
Калі ж душа завяне, замаўчыць,
Даруй, жыццё, тады ці варта жыць?!.

ЗМЕСТ

ЖАНЧЫНА
Ў ЧОРНЫМ



МАЛІТВА
БЯРОЗЫ

**Дашкевіч Г.**

Д21 Верасніца: Кн. паэзіі / Прадм. В. Кавален-кі.— Мн.: Маст. літ., 1997.— 140 с.

ISBN 985-02-0405-2.

Кніга вершаў Галіны Дашкевіч «Верасніца» — гэта лірычная споведзь чуйнай душы пра любы палескі край, родных і блізкіх людзей, заклапочанасць пра сёняшні і заўтрашні дзень чалавечага быцця.

**ББК 84(4Бен)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Дашкевіч (Клімовіч) Галіна Мікалаеўна**

**ВЕРАСНІЦА**

Кніга паэзіі

Рэдактар В. М. Хлебавец. Мастак М. Я. Шкурпіт. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт.
Тэхнічны рэдактар М. Ц. Панкова. Карэктар Л. А. Дзядзюля.
Аператар К. І. Санжарэўская.

Падп. да друку 12.06.97. Фармат 70x90 1/32. Папера афс. № 1. Гарнітура тып. Таймс.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,56. Ул.-выд. арк. 3,39 .
Тыраж 800 экз. Зак. 5352

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме.
Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 15.01.93. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.